№8(29)
2001г.
жнівень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

Надышоў час

**А Вы зрабілі свой выбар?**

9 верасня 2001 г.

## Газеце "Гоман Барысаўшчыны" 5 год!

*Сёлета ў жніўні спаўняецца пяць год з моманту выхаду першага нумара нашай газеты. А пачалося ўсё раней – у восень 1995 года. На той момант у Барысаве існавала дзве газеты – "Адзінства" і "Барысаўскія навіны". Газета "Гоман Барысаўшчыны" была зарэгістравана тады яшчэ Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь 3 лістапада 1995 года. Пазней у нашым горадзе былі ўтвораны такія перыядычныя выданні як "Курьр из Борисова" (першапачаткова "Борисовский курьер"; аднак дадзенае выданне першы нумар выдала раней за нашу газету, нягледзячы на больш позні час утварэння), "Новая Барысаўская газета" і "Телелоцман".*

*Газета "Гоман Барысаўшчыны" мае свой выразны твар, адметна не толькі сярод тутэйшых газет, але і сярод рэгіянальных выданняў на Беларусі наогул.*

*За пяць год у нашай газеце шмат што змянілася. Больш чым тры гады яна выходзіла нерэгулярна, з кастрычніка 1999 года – раз на месяц. Першыя нумары газеты выдаваліся на чатырох старонках, а са студзеня 2000 года газета выдаецца на васьмі старонках. Ужо амаль два гады на газету можна падпісацца. Амаль год можна гэта рабіць са штотыднёвым тэлевізійным дадаткам "Плюс TV".*

*За час існавання моцна змяніўся змест і дызайн выдання. Многія элементы ў афармленні, падачы матэрыялаў, якія актыўна выкарыстоўваюцца тутэйшымі газетамі, упершыню ў Барысаве пачалі ўжывацца ў нашым выданні.*

*"Гоман Барысаўшчыны" мае вялікія планы на далейшае. Шмат якія ідэі, што маюцца ў рэдакцыі, на сённяшні час яшчэ не рэалізаваны. Чытачоў у бліжэйшы час чакае пашырэнне тэматыкі матэрыялаў газеты, удасканаленне іх нагляднасці і ўспрыняцця ды шмат што яшчэ. Але пры гэтым застанецца самае галоўнае – даведзенне чытачам пра невядомыя і малавядомыя бакі жыцця і гісторыі Барысаўшчыны і яе сучаснасць. Мы спадзяемся, што ў самы бліжэйшы час паўстане пытанне аб павелічэнні памеру або перыядычнасці выдання нашай газеты.*

*Планаў у нас шмат, але ці змогуць яны рэалізавацца і ў якім накірунку рухацца газеце, найперш залежыць ад вас, шаноўныя чытачы.*

**М.Мацельскі,**
**рэдактар газеты "Гоман Барысаўшчыны"**










*Выгляд першага нумара газеты "Гоман Барысаўшчыны", які ўбачыў свет у жніўні 1996 года і асобных іншых*











## Галаву выцягнулі, хвост застраў...

Амаль месяц ўрачы першай паліклінікі горада былі вымушаны адмаўляць хворым у наведванні. Кожны, хто захварэў, вымушаны быў на ўласныя сілы прыйсці на прыём, каб атрымаць медыцынскую дапамогу.

Справа ў тым, што з ліпеня службовыя машыны, якія павінны дастаўляць урачоў да пацыентаў, перасталі з'яўляцца каля паліклінікі. У гарздраве гэта тлумачылі адсутнасцю сродкаў на закуп паліва.

На шчасце, як нам паведамілі, з надаўняга часу ўрачам усё ж выдзелелі так патрэбны ім транспарт. Але на тыдзень затрымалі зарплату.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

*Працягваецца падпіска на нашу газету на чацвёрты квартал. Нагадваем, што падпісны індэкс нашай газеты*

**64184**

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **120** руб., на **3** месяцы - **360** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **400** руб., на **3** месяцы - **1200** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **180** руб., на **3** месяцы - **540** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **500** руб., на **3** месяцы - **1500** руб.

## Скажы тэрарызму: "НЕ"

10 жніўня роўна ў 19:00 ў краме №34, што ля гарадской плошчы, адна з прадаўшчыц віна-гарэлачнага аддзела заўважыла пакінуты кімсьці ля вітрыны чорны поліэтыленавы пакет. Праз нейкі час яна вырашыла паглядзець, што знаходзіцца ўнутры.

Адзін з пакупнікоў жартуючы выказаў здагадку аб наяўнасці ў пакеце бомбы. Другі падтрымаў яго словамі: "У мяне выдатны слых, я нават чую як яна цікае". Прадаўшчыца збянтэжылася, вырашыла не адчыняць пакет і паклікала міліцыянера.

Што цікава, пакупнікі ў гэты час не разыходзіліся, а чакалі развязкі і спрачаліся: узарвецца міна ці не?

Далей паследвалі падзеі, ня вартыя ўвагі, у выніку якіх высвятлілася, што ў пакеце знаходзіцца бутэлька мінеральнай вады.

Як адразу падвялі вынік прысутныя на месцы здарэння народныя аналітыкі – з такім пільным народам мы можам не баяцца аніякіх правакацый з боку шматлікіх сусветных экстрэмістаў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Адкрыты зварот

### да старшыні Барысаўскага гарвыканкама Бургуна В.І. у сувязі з набліжэннем 900 - годдзя Барысава

Газета "Гоман Барысаўшчыны" адным са сваіх асноўных накірункаў лічыць культурна – асветніцкі. Вялікае месца на яе старонках аддаецца прапагандзе гісторыі нашага краю і захаванню тутэйшых традыцый. Таму яшчэ больш за год назад на старонках нашага выдання пачалося грамадскае абмеркаванне пытанняў, якія ўзнікаюць вакол святкавання 900-годдзя Барысава. За гэты час было выказана нямала вартых увагі разважанняў і прапаноў.

900-годдзе нашага горада - вялікае тутэйшае і агульнабеларускае свята, якое павінна аб'яднаць прадстаўнікоў усіх частак грамадства. Аднак тыя звесткі, якія становяцца вядомымі і зыходзяць ад прадстаўнікоў аргкамітэта па святкаванню юбілею горада, нярэдка незразумелы і выклікаюць пачуццё моцнага расчаравання.

Па – першае, практычна праігнараваны ўсе тыя грамадскія прапано-

**(Заканчэнне на стар. 4)**

## Час выбіраць

9 верасня на Беларусі адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Ці пачнецца пасля іх паляпшэнне нашага жыцця, адраджэнне спрадвечных каштоўнасцяў грамадства, ці спыняцца знікненні і праследаванні найбольш актыўных грамадзян, ці зможа Беларусь вярнуцца ў сусветную супольнасць раўнапраўным сябрам, ці прыдзе, урэшце рэшт, да кіравання дзяржавай пакаленне палітыкаў, для каго лёс Беларусі будзе важней за асабістыя амбіцыі?

Беларусі патрэбны прэзідэнт, які б аб'ядноўваў грамадства, а не ўвесь час шукаў ворагаў і супрацьпастаўляў сябе ўсім.

Зараз вырашаецца лёс Беларусі. Якім ён будзе надалей – залежыць толькі ад нас.

***Кандыдаты ў прэзідэнты рэспублікі Беларусь*** (Фота IREX/ProMedia)

**С.Гайдукевіч**
*Прадстаўляе ідэі ліберальна – дэмакратычнай партыі Беларусі.*

**У.Ганчарык**
*Прадстаўляе шырокую грамадскую кааліцыю, якая аб'ядноўвае практычна ўвесь спектр палітычных партый Беларусі і недзяржаўныя грамадскія аб'яднанні.*

**С.Домаш**
*Зняў сваю кандыдатуру на карысць адзінага кандыдата ад грамадскай кааліцыі* ***У.Ганчарыка.***

**А.Лукашэнка**
*Сённяшні прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Прадстаўляе ўладу, якая існуе.*






# Ад нумара да нумара

**Святы**
Яблычны Спас святкавалі праваслаўныя вернікі горада 19 жніўня.

**Юбілеі**
40-гадовы юбілей адзначыла 1 жніўня барысаўская стаматалагічная паліклініка.

**Перамогі**
Пераможцам раённага спаборніцтва па ўборцы збожжавых культур прызнаны калгас "Чырвоны наваселец".

**Выбары**
У Барысаве створаны штаб падтрымкі адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сіл Уладзіміра Ганчарыка.

* * *

З 3 па 5 жніўня барысаўскія "зубры" праводзілі рэйд па раздачы агітацыйных матэрыялаў на вёсках Барысаўшчыны.

* * *

У рамках кампаніі "Выбірай" 8 жніўня на стадыёне вайсковага гарадка "Печы" адбыўся матч паміж камандамі моладзевай кааліцыі"Акцэнт" і каманды афіцэраў Пячэй.

* * *

27 жніўня ў Барысаве мае быць праведзена сустрэча з адзіным кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь ад дэмакратычных сіл У.Ганчарыкам.

**Эканоміка**
Па выніках гэтага паўгоддзя , як паведамляе Мінаблвыканкам, Барысаў па паказчыках эканамічнага развіцця не дасягнуў узроўню мінулага года.

* * *

Аукцыён продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці пройдзе 28 жніўня ў Барысаве.

**Адкрыццё сезона**
3 першай суботы жніўня ў Барысаве адкрыты сезон летнеасенняга палявання на вадаплаўную дзічыну.

**Семінары**
На базе школы № 19 26-27 ліпеня прайшоў семінар-нарада з нагоды стварэння ў адукацыйных установах горада прафарыентаваных класаў "Папярэджанне і ліквідацыя надзвычайных становішчаў".

**Прытулкі**
Аляксандр Абрамовіч, лідэр барысаўскага філіяла БСДП"НГ" папрасіў палітычнага прытулку ў ЗША.

**Стыхіі**
У выніку моцных лівняў і ветраў 9 жніўня ў Барысаўскім раёне пацярпелі 106 населеных пунктаў.

* * *

У выніку ліўнёвых дажджоў з 23 на 24 ліпеня ў Заліпейным раёне было затоплена 460 двароў

**Атрута**
На пачатку жніўня ветэрынарнасанітарны кантроль зафіксаваў шматлікія выпадкі гандлю радыёактыўназабруджанымі грыбамі і ягадамі.

**Канцэрты**
13 жніўня перад барысаўцамі выступіла вядомая спявачка Надзея Бабкіна і яе ансамбль "Руская песня".

* * *

15 жніўня на гарадскім стадыёне выступаў цырк узбекскіх канатаходцаў.

* * *

18 жніўня на цэнтральным стадыёне прайшоў канцэрт беларускіх і расійскіх выканаўцаў у падтрымку Саюза Расіі і Беларусі.

* * *

23 жніўня ў Барысаве прайшоў канцэрт рок-музыкі зарганізаваны "Арт-Студыяй". Перад гледачамі выступіў гурт "Столле".

**Спаборніцтвы**
Каля 300 юных барысаўцаў бралі ўдзел у спаборніцтвах "Спартландыя", што прайшлі 10 жніўня на гарадскім стадыёне

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Юбілей набліжаецца!

*Дзе ні дзе ў горадзе пачала з'яўляцца юбілейная сімволіка. Да свята засталося усяго каля дзесяці месяцаў.*




Вул. Будаўнікоў

## Сесці можна не толькі ў лужыну

Да натоўпу чакаючых аўтобус на чыгуначным вакзале пад'ехала доўгачаканая "адзінка". Адным з тых, хто зайшоў у салон, быў малады мужчына, адзеты "ва ўсё белае". Аўтобус быў паўпусты, таму ён, няспяшаючыся, прабіў талон і сеў на ўпадабанае месца. Але калі праз некалькі прыпынкаў ён падняўся каб выйсці, аўтобус узварушыў голас нейкай кабеты.

- Мужчына, у вас ўся спіна чорная!

На дзіва, гэтае, падобнае на жарт, выказванне апынулася праўдай – светлы плашч небаракі стаў брудна чорным. Амаль адразу перапалох падняўся па ўсяму аўтобусу – усе сядзенні былі пакрыты тоўстым слоем нейкай сажы і бруду. Нехта абтросся і знайшоў за лепшае стаяць, а нехта кінуўся да кіроўцы, каб высвятліць адносіны.

- Аўтобус толькі з тэхнічнага агляду. Доўга знаходзіўся ў гаражы, вось і запыліўся, - патлумачыў кіроўца.

Такая дзіцячая непасрэднасць адказу, напэўна, адбіла ў "прыпыленых" пасажыраў жаданне нешта удакладняць непасрэдна ў аўтапарку, бо, наколькі нам вядома, ніхто туды так і не звярнуўся.

Тым часам з'яўленне бруднага аўтобуса на маршруце ў Барысаве – рэч звычайная. Таму, калі вам нават пашчасціла трапіць ў салон, не спяшайцеся сесці ці ўхапіцца абедзвюма рукамі за поручні – упэўніцеся спачатку, што вы не прыстанеце да іх, як камарык да расянкі.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Барысаў на старонках "New York Times"

У панядзелак, дваццатага жніўня газета "New York Times" выйшла ў свет з вялікім артыкулам на першай паласе, прысвечаным передвыбарнай падрыхтоўцы ў Барысаве.

У артыкуле аналізуецца дзейнасць мясцовых грамадскіх арганізацый, якія вядуць мабілізацыйную кампанію і дацца хроніка падзей, звязаных з выбарамі. Карыстальнікі Internet могуць азнаёміцца з артыкулам на афіцыйным сайце газеты www.nytimes.com.

Барысаў там падаецца як правінцыйны беларускі горад, вядомы тым, што пад ім быў разбіты Напалеон, а існуючы ў Беларусі палітычны лад называецца аніяк інакш, як дыктатурай.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Перадвыбарчы візіт

21 жніўня наш горад наведаў прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка. Ён пабываў на такіх прадпрыемствах як "Завод пластмасавых вырабаў", "Аўтагідраўзмацняльнік", "БАТЭ". Растлумачыў каго трэба вібіраць на прэзідэнскіх выбарах. Пасля таго прэзідэнт выступіў каля нового ўнівермага "Веста". Далей яго шлях ляжаў у вайсковы гарадок Лядзішчы, дзе ён удакладніў ці з'явілася ў іх вада. З усіх выступаў А.Лукашэнка, які кіруе намі 5+2 гады, вынікала, што ён жадае застацца "кіроўцам" дзяржавы яшчэ на пяць год.

*С.Чарнуха*



18 жніўня ў Барысаве прайшоў абласны гандлёвы кірмаш. "Кірмаш – 2001" быў прысвечаны пачатку навучальнага года. На ім сярод іншага было праведзена шмат культурна-масавых і спартыўных мерапрыемстваў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Пачаўся адлоў "зуброў"?

На працягу дзесяці дзён з 10 па 20 жніўня ў Барысаве было затрымана 30 актывістаў арганізацыі "Зубр". Восем чалавек былі затрыманы пад час акцыі "Ланцуг неабыякавых людзей", якая праходзіла 15 жніўня на гарадской плошчы. Абвінавачванне не было арыгінальным – удзел у несанкцыянаваным пікеце. Усяго ў той дзень у акцыі брала ўдзел каля ста "зуброў".

Астатніх затрымлівалі ўначы пад час расклейкі налепак, заклікаючых прыйсці на выбары. Артыкул адміністрацыйнага кодэкса, пад які падпадаюць дзеянні юнакоў, гучыць, прыкладна, наступным чынам – "распаўсюджванне друкаванай прадукцыі без выхадных дадзеных".

З іншага боку, як нам паведаміў актывіст руху Антон Цялежнікаў, пад час абласнога кірмашу менавіта супрацоўнікі міліцыі і АМАПа найбольш актыўна бралі спецвыпускі газэт "Наша свабода" і "Рабочы", якія распаўсюджвалі "зубры".

-Мы не ставім сабе мэты ісці на канфлікт з прадстаўнікамі сілавых структур. Яны такія ж грамадзяне Рэспублікі Беларусь, - заявіў Цялежнікаў.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Цукар цукру не сябар

Напрыканцы ліпеня, у самы разгар нарыхтоўчага сезону на рынках горада знік цукар. На прылаўках асобных крамаў можна было яго набыць, але "толькі два кілаграмы ў адны рукі" і пры тым пасля стаяння ў чэрзе. З'явіліся плёткі, што гандляваць цукрам на рынках забаранілі ўвогуле. За каментарам мы звярнуліся да загадчыка аддзела гандлю гарвыканкама Аляксандра Ягоранкі.

- Справа ў тым, што па даручэнні Упраўлення коштаўтварэння мы праводзілі праверкі на рынках горада. Так па рашэнні Мінэканомікі адпускны кошт на цукар не павінен перавышаць 646 рублёў за кілаграм ні ў прыватных гандляроў, ні ў дзяржаўных крамах. Былі знойдзены парушэнні, калі цукрам гандлявалі па коштах, якія перавышалі 700 рублёў. Адміністрацыі рынкаў было прапанавана кантраляваць сітуацыю і за парушэнні лішаць віноўных гандлёвых месцаў.

Прадпрымальнікаў таксама можна зразумець - яны купляюць свой тавар у вытворцаў па 630-640 рублёў. Гандляваць па фіксаваным кошце – сабе ў страту. Таму зараз яны проста знялі цукар з продажу. Але існуе нюанс – фіксаваны кошт устаноўлены толькі на прадукцыю беларускіх таваравытворцаў. Таму хутка ў продажы з'явіцца цукар з Расіі і Украіны, - запэўніў нас загадчык аддзела.

І сапраўды, цукар на рынках хутка з'явіўся. Кожны жадаючы змог загатаваць варэнне і кампот, але з расійскім і украінскім цукрам.

*Служба інфармацыі "ГБ"*



## Яшчэ трошкі, і ў ганка "паехаў" бы дах

Поўнасцю змяніць пад'езды было вымушана ЖБК у доме нумар 33 на праспекце Рэвалюцыі. Бо старыя цагляныя пачалі проста рассыпацца ад часу.

Мясцовыя жыхары кажуць, што патрэба памяняць ганкі наспела ўжо даўно, але камунальшчыкі адмаўляліся гэта зрабіць, спасылаючыся на адсутнасць сродкаў. Пакуль нядаўна выпаўшы кавалак цагліны не параніў дзіця, якое выходзіла з пад'езда,. Толькі пасля гэтага ганкі пачалі мяняць на бетонныя канструкцыі.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Традыцыі - гэта сіла!

Вялікая сіла - традыцыі! Усяму свету вядомы прыхільнасці да іх у Англіі і ў многіх іншых краінах. Ёсць свае традыцыі і ў нас.

Вось, напрыклад, каля арак у двары дома № 1 па вуліцы 50 год БССР (так званая "Кітайская сцяна") была вялікая лужына, якая рэдка перасыхала і была адметна сваімі памерамі, глыбінёй і злавоннымі пахамі. У рэшце рэшт яе было вырашана "зліквідаваць", для чаго яшчэ летась пачалося "узвядзенне" ліўнёвых сцёкаў. Сёлета праца была скончана. Здавалася, што ўсё павінна быць цудоўна. Але як жа з традыцыямі? Выйсце будаўнікамі было знойдзена. Сцёкі былі размешчаны вышэй за дно лужыны. У выніку яна назаўсёды перастала існаваць у ранейшых памерах, у той жа час былі захаваны яе пераемніцы – лужыны, якія хутка перасыхаюць, але ўвесь час нагадваюць аб багатых тутэйшых "мокрых" традыцыях.

Вось яшчэ адзін прыклад, за якім у літаральным сэнсе не трэба далёка хадзіць ад першага. Не так даўно было зроблена добраўпарадкаванне аўтобуснага прыпынка "Палітэхнікум", што знаходзіцца насупраць установы, якая раней насіла такую назву. Цудоўная і вельмі патрэбная справа. Але, калі б усё было зроблена "па-людску", гэта было б так незвычайна і не традыцыйна. Выйсце са становішча зноў было знойдзена. Пляцоўка пад прыпынак была зроблена меншай, чым неабходна для размяшчэння тых, хто чакае грамадскі транспарт, а пешаходныя дарожкі па шырыні і накірунках былі выканаы з ігнараваннем рэальных патрэбаў пешаходаў. У выніку людзі вымушаны хадзіць і стаяць пераважна на зямлі, а не на "еўраплітцы". Такім чынам, з аднаго боку мерапрыемства па добраўпарадкаванню праведзена, укладзены грошы, але ў той жа час захавана традыцыя – нязручнасць для пасажыраў, вытаптаная трава, бруд на прыпынку і каля яго.

А колькі грошай будзе падобным чынам марнатраўна згублена пры "захаванні" падобных традыцый падчас падрыхтоўкі да юбілею Барысава?

Што не кажыце, а традыцыі доўга ўкараняюцца, але ад іх цяжка пазбавіцца. Газета "Гоман Барысаўшчыны" увесь час выступае за захаванне традыцый, але гэта той выпадак, калі хацелася б ад іх адмовіцца як мага хутчэй.

*Ян.Юроўскі*

# Слабая "падтрымка"

На адзіным у Барысаве аўтамабільнам мосце праз Бярэзіну стварылася небяспечная для пешаходаў сітуацыя. Пярылы, якія захоўваюць пешаходаў ад падзення, з цягам часу згнілі і пачалі праламвацца пад уласнай вагой і пад дзеяннем вібрацыі ад праходзячага транспарту. На сёння металічныя балкі перылаў праломаны недзе ў дзесятку месцаў, а ў трох - чатырох пралётах яны і ўвогуле адсутнічаюць.

Пад час апошняга капітальнага рамонту маста іржавае жалеза змяніць не хапіла сродкаў, таму пярылы былі проста пафарбаваны. Дарэчы, фарба рэгулярна ўзнаўляецца, але гэта ніяк не ўплывае на іх трываласць. Наша газета настойліва раіць не абапірацца на рэштки пярылаў і быць крайне ўважлівымі, калі вы пераходзіце праз Бярэзіну па гэтым мосце.

Дарэчы, не нашмат лепшая сітуацыя з мастом праз Сху. Там пярылы таксама знаходзяцца ў аварыйным стане.

*Служба інфармацыі "ГБ"*





*Мост праз Бярэзіну па вуліцы Гагарына і стан яго перылаў.*

*Пабудаваны ён быў пасля апошняй вайны з прыцягненнем да працы палонных немцаў. Цікава, ці рамантаваліся з таго часу яго перылы?*

# Навошта "Скіф" барысаўскаму тэлебачанню?

Вяшчанне барысаўскага тэлеканала тутэйшыя гледачы адразу ўспрынялі як належную з'яву ў павуцінне электронных сродкаў масавай інфармацыі. А вось назву барысаўскага тэлебачання "Скіф" шмат хто з барысаўцаў успрымае іранічна.

У Вялікім энцыклапедычным слоўніку (Масква, 1997 г.) тлумачыцца, што скіфы – старажытныя плямёны Прычарнамор'я ў VII стагоддзі да нашага часу – III стагоддзя нашага часу. Пасля разгрому готамі (германцамі) скіфы рассяліліся сярод іншых плямёнаў. Была калісьці і Скіфская дзяржава (створана ў IV стагоддзі да нашага часу) і скіфская мова. Адзін з скіфскіх дыялектаў нават склаў аснову асецінскай мовы.

Узнікае пытанне: прычым скіфы да мясцовага барысаўскага тэлебачання?

*А.Шустоўскі*

## *Падзяка*

*Працэдурнай сястры хірургічнага аддзялення Барысаўскай гарбальніцы Алене Валер'еўне Пасікавай*

**За тое, што змяншала мукі,**
**Алена, дзякую табе,**
**Ты залатыя маеш рукі,**
**Душа прыгожая ў цябе.**

**Табе, нібы дачушцы роднай,**
**Жадаю доўгага жыцця,**
**Удачы, шчасця і здароўя,**
**Прыемных сноў і пачуцця.**

**Не забывай ніколі Бога**
**І не развітвайся з дабром –**
**Тады жыццёвая дарога**
**Звінець век будзе серабром.**

*Д.Самойленка*

# На метро – да Барысаўскага тракта

У сувязі з адкрыццём з 1 верасня для паездак пасажыраў Мінскага метрапалітэна новай станцыі "Магілёўская" змянілі схемы існуючых ліній.

На адноўленых, якія з'явіліся ў вагонах электрацягнікоў, акрамя станцыі "Магілёўская", з'явіліся новыя станцыі з разраду тых, што будуюцца і што праектуюцца". Сярод тых, што будуюцца з'явіўся прыпынак з назвай "Барысаўскі тракт".

Як нам патлумачылі ў адміністрацыі Метрапалітэна, з'яўленне станцыі "Барысаўскі тракт" звязана з існуючай апошнім часам тэндэнцыяй даваць прыпынкам гістарычныя назвы.

На жаль, нават кіраўніцтва метро не ведае, калі будаўніцтва гэтай станцыі будзе скончана.

*Служба інфармацыі "ГБ"*




*Фрагмент схемы першай лініі менскага метрапалітэна на якой адзначана станцыя Барысаўскі тракт, што будуецца*

# План распрацаваны для Барысава, а паспяхова выконваецца за мяжой?!

*Апошнім часам амаль штогод даводзіцца бываць на Украіне. Сёлетняя вандроўка праходзіла па Валыні, Галіччыне і Карпатах. Пасля яе проста самі сабой напрошваюцца цікавыя паралелі паміж тамтэйшымі гарадамі і Барысавам, той рэчаіснасцю і нашай.*

Напярэдадні паездкі ў барысаўскай прэсе з'явіліся публікацыі па планируемых мерапрыемствах да 900 – годдзя горада. Прачытаўшы іх, з гонарам за будучы выгляд свайго горада я адправіўся ў шлях. Якое было маё здзіўленне, калі я ўбачыў, што ў большасці з тамтэйшых гарадоў шпаркімі тэмпамі ідуць працы па выкананню мерапрыемстваў, што прадугледжаны ў Барысаве да яго 900-годдзя. Прыводзяцца ў парадак цэнтры месцаў, на ходніках укладваецца "еўраплітка", рэстаўруюцца старыя дамы. Магчыма нам цяжка гэта ўявіць, але ў асобных гарадах гэта праца ў асноўным завершана. І гэта без ніякіх юбілеяў! І вада ў іх кранах ужо не адно дзесяцігоддзе (а дзе-нідзе, можа, і больш стагоддзя) маецца круглыя суткі. Месцамі проста пункт у пункт штодня паспяхова выконваюцца мерапрыемствы, што распрацаваны для Барысава. Як такое можа быць? Мо іх разведка выведала нашы планы і ўкараняе іх у сябе? А нашы адпаведныя органы праспалі ў шапку гэты крадзёж, пакуль змагаліся з няўлоўнымі зубрамі? А можа ўсё прасцей: тое, што ва ўсім свеце робіцца штодня, у Барысаве нам выдаецца за найвялікшую мэту да юбілею?

Але гэта яшчэ не ўсё. На Галіччыне і ў Карпатах уражваюць не толькі тамтэйшыя маштабы рамонтаў і прывядзення ўсяго да людскага выгляду, але і памеры будаўніцтва, якое вядзецца як дзяржаўным, так і індывідуальным чынам. Прычым асабістыя дамы рэдка будуюцца менш чым па два паверхі. Іх афармленню могуць пазайздросціць лепшыя дамы Барысава. Усюды, у тым ліку і на вёсках, шмат прыватных крам. Іх афармленне ніколькі не саступае падобным польскім крамам (чытай – найлепшым барысаўскім). Усе паліцы застаўлены добра афармленымі ўкраінскімі таварамі. Апошнія, на жаль, пакуль маюць якасць на ўзроўні беларускіх. Але пры існуючых тэндэнцыях праз два – тры гады яна будзе значна вышэй.

Рэзка кантрастуюць з тутэйшымі ўражанні, якія можна атрымаць ад узыходжання на вышэйшую гару Украіны Гаверлу (вышыня 2060 метраў). І справа тут не толькі ў гарах. Для украінцаў гэта адно з галоўных месцаў паломніцтва. Таму не дзіва, што там у гэты час быў натоўп каля двухсот (!) чалавек. Тое, што давялося там убачыць, было больш падобна на маёўку, чым на "пакарэнне" турыстамі горнай вяршыні. Яны мелі каля дзесятка жоўта – блакітных украінскіх сцягоў, спявалі песні на роднай мове. А каб сфатаграфавацца (абавязкова са сцягам) каля крыжа з замураванай канстытуцыяй незалежнай Украіны, трэба было выстаяць чаргу. Уявіць сабе штосьці падобнае ў нас проста немагчыма. Тут бы абавязкова была б даслана рота АМАПаўцаў, пасля чаго ляцелі б усе "турысты" дагары нагамі з вышыні больш за дзве тысячы метраў па альпійскіх лугах. Але на Украіне такое ўжо даўно немагчыма.

Нярэдка ў нас можна пачуць параўнанне тутэйшага і украінскага жыцця. Асабістыя назіранні паказваюць, што пры гэтым далёка не заўсёды даводзіцца чуць праўду.

*В.Стэфановіч*



Былы дом Каладзеева. Фасад у бок горада

# Прывід дома Каладзеева

*Расповяды пра прывіды старажытных будынкаў маюць шырокае распаўсюджанне ў свеце і на Беларусі. Яны сталі неад'емнай часткай і гісторыі многіх замкаў, іх культурных традыцый. Ёсць такое месца і ў Барысаве – былы сядзібны дом Каладзеева.*

Пра зніч пуцявога абходчыка ўпершыню я пачуў недзе два гады таму. Чалавек, якому не было падставы недавяраць, пераказаў мне гісторыю аб тым, што каля аднаго з самых старых будынкаў у Барысаве – дома Каладзеева – некалькі разоў розныя сведкі бачылі чалавека, апранутага ў адзенне мінулага стагоддзя. На ім было нешта накшталт форменнага сюртука чыгуначнага служачага. Чалавек гэты з'яўляўся невядома адкуль і пэўны час гутарыў з мужчынамі (жанчынам даводзілася толькі бачыць яго) аб будучыні горада, а потым раптоўна знікаў.

Як сведчыць гісторыя, на пачатку нашага стагоддзя каля сучаснага чыгуначнага маста праз Бярэзіну сапраўды знаходзіўся домік нейкага пуцявога абходчыка. І падчас рэвалюцыйнай смуты ён быў ні то павешаны чырвонымі, ні то расстраляны белымі.

Я некалькі разоў наведваўся да дома Каладзеева, пытаўся ў мясцовых жыхароў, ці не ведаюць яны што пра гэта. Толькі аднойчы нейкі мужчына сказаў мне, што ён чуў нешта пра дзіўнага чалавека, які знікае. Але гэты выпадак адбыўся даўно, недзе ў пяцідзесятых гадах. Мяне ж цікавілі больш сучасныя падзеі.

І вось раптам я сутыкнуўся адразу з двума сведкамі. Мужчына, які назваў сябе Сцяпанам, сказаў, што зусім нядаўна бачыў тут чалавека, апранутага ў старадаўні касцюм, які таксама распавядаў аб будучыні Барысава. Але на яго вачах ён нікуды не знікаў, і ён прыняў яго проста за нейкага дзівака. Жанчына, якая назірала за іх гутаркай здалёк, пацвердзіла словы Сцяпана аб тым, што чалавек быў "вельмі дзіўна апрануты". Таксама яна дадала, што пасля доўга дзівілася, куды ён мог знікнуць з тупіка паміж дамамі.

На жаль, Сцяпан не звярнуў патрэбнай увагі на словы "пуцявога абходчыка", але ўсё ж некалькі прадказанняў ён запомніў.

Так ён узгадаў словы незнаёмца аб "вялікай аварыі на гарадскім заводзе праз год ці меней". Таксама ён казаў, што некалькі барысаўцаў хутка стануць "вядомы ўсяму свету". Некалькі прадказанняў датычылася новых раёнаў, якія "будуюцца ў нядобрых месцах", але што канкрэтна было сказана, ён не запомніў. Пасля таго, як ён паабяцаў мне узгадаць трохі больш, мы расталіся.

*С.Нялюбін*

***P.S.*** *Як мне вядома, раней, перад тым як знікнуць на больш доўгі тэрмін, "зніч пуцявога абходчыка" з'яўлялася некалькі разоў перад рознымі людзьмі. Таму, магчыма, у бліжэйшы час у нас з явяцца нейкая іншая інфармацыя на гэтую тэму, якая пацвердзіць, ці наадварот, аправергне гэтае паданне. У любым выпадку мы будзем трымаць чытачоў у курсе гэтай справы.*



Былы дом Каладзеева. Галоўны фасад

# Адкрыты зварот да старшыні Барысаўскага гарвыканкама Бургуна В.І. у сувязі з набліжэннем 900 - годдзя Барысава

(Заканчэнне, пачатак на стар. 1)

вы, якія выказваліся, у прыватнасці, на старонках нашай газеты.

Па – другое, сярод тых аб'ектаў, на якіх плануецца правядзенне работ да юбілею горада, цалкам адсутнічаюць (!) найбольш старыя будынкі і цэлыя комплексы горадабудавання, што маюць найвялікшую каштоўнасць (замчышча XII ст., дзе быў заснаваны Барысаў, замчышчы XIV, XVII стст., манастыр XII – XVIII стст. і інш.). Прапануемыя мерапрыемствы больш нагадваюць спробу затыкання дзірак у нездавальняючай штодзённай працы па вырашэнні праблем горада.

Па – трэцяе, большасць са старых гістарычных будынкаў (каля 80-і мураваных XIX – пачатку XX ст. і асобныя найбольш каштоўныя драўляныя будынкі XVII – пачатку XX ст.) патрабуюць рэстаўрацыі. Але для гэтага неабходны вельмі вялікія грашовыя ўкладанні, якія немагчыма вылучыць нават на дзяржаўным узроўні за такі сціслы час. Тое месца, што надаецца гэтаму пытанню сярод мерапрыемстваў, якія плануецца правесці да юбілею, і ўкладаемым у яго сродкаў, сведчыць аб тым, што ніякая рэстаўрацыя і тым больш рэгенерацыя старой забудовы горада не плануецца наогул. Яна практычна будзе падменена простым касметычным рамонтам асобных будынкаў.

Па – чацвёртае, пры правядзенні мерапрыемстваў цалкам праігнараваны іншыя вельмі важныя для гісторыі горада даты (у прыватнасці 210-годдзе надання Барысаву гарадскога герба і поўнага магдэбургскага права).

Па – пятае, сярод мерапрыемстваў да юбілею горада ні слова не нададзена адраджэнню і мяркуемаму месцу на свяце і ў жыцці грамадства адной з найбольш важкіх каштоўнасцей тутэйшай зямлі – беларускай мове.

У сувязі з вышэйсказаным, з улікам грамадскага абмеркавання, што праводзілася і вядзецца на старонках газеты "Гоман Барысаўшчыны", з мэтаю выпраўлення нездавальняючага плана мерапрыемстваў да 900-годдзя Барысава і пераўтварэння юбілею з бюракратычна – казённага ў сапраўды ўсеагульнае прапануецца:

Першае, тэрміновае стварэнне шырокага аргкамітэта з прыцягненнем прадстаўнікоў усіх зацікаўленых структур і грамадскасці для карэкцыі плана мерапрыемстваў да юбілею горада і прывядзення іх у адпаведнасць з існасцю свята.

Другое, існуючы стан інфармавання грамадства па падрыхтоўцы да юбілею з'яўляецца нездавальняючым, што не дазваляе яго ўспрымаць як усеагульны.

Трэцяе, у лік аб'ектаў, якія маюць каштоўнасць не толькі для горада, але для Беларусі наогул і на якіх абавязкова павінны быць праведзены работы па іх рэстаўрацыі (у крайніх выпадках – кансервацыі), а то і рэгенерацыі неабходна ўключыць замчышча XIV стагоддзя, манастыр XII – XVII стагоддзяў, замчышча XVII стагоддзя, а таксама сядзібны дом Каладзеева канца XIX стагоддзя і шэраг іншых аб'ектаў, сярод якіх – гарадскі парк 1910 года. З улікам таго, што 900-годдзе Барысава будзе адзначацца на агульнадзяржаўным узроўні, у спіс аб'ектаў, на якіх абавязкова павінны быць праведзены работы ў межах па падрыхтоўцы свята, не можа не быць не ўключана гарадзішча XII стагоддзя, на якім быў заснаваны горад і якое патрабуе добраўпарадкавання. Гэта мэтазгодна зрабіць у комплексе з рэстаўрацыяй, а дзе неабходна і рэгенерацыяй аднаго з найбольш каштоўных тутэйшых архітэктурных і паркавых комплексаў – маёнтка Радзівілаў канца XVIII стагоддзя.

Чацвёртае, сярод прапануемых мерапрыемстваў не надаецца месца вельмі важнаму фактару – адраджэнню ў гістарычнай частцы Барысава самаго духу старога горада. Больш таго, асобнымі з тых мерапрыемстваў, што прапануюцца, ён проста знішчаецца. Павінна быць распачата сапраўдная рэстаўрацыя старых будынкаў (а не іх знішчэнне пад выглядам рэстаўрацыі, як гэта мела месца з будынкам № 79 па вул. Дзяржынскага), а ў пэўных выпадках і рэгенерацыя знішчаных будынкаў (напрыклад, найбуйнейшага тутэйшага дарэвалюцыйнага кінатэатра "Гігант", які быў знішчаны на пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя). Пры добраўпарадкаванні гістарычнага цэнтра важна не толькі пазбегнуць памылак мінулых гадоў, калі пры правядзенні падобных работ практычна засыпаліся ніжнія часткі старых будынкаў, але і выправіць гэтыя недарэчнасці. Варта зрабіць перапрафілізацыю шмат з якіх старых будынкаў. Неабходна змяненне фасадаў і дахаў новых шматпавярховых будынкаў, што ўзведзены ў раёне замчышчаў, у наваколлі базарнай плошчы і прывядзенне іх у выгляд, які б гарманіраваў, а не кантраставаў з гістарычным асяроддзем горада. На фасадах асобных больш позніх будынкаў на базарнай плошчы мэтазгодна адлюстраваць выгляд гістарычнай забудовы, што была на гэтым месцы раней.

Пятае, для аднаўлення атмасферы старога горада мэтазгодна на яго цэнтральных вуліцах аднаўленне брукаваных пакрыццяў. Тым больш, што такія пакрыцці па сваіх якасных паказчыках не саступаюць асфальтаваным З улікам недаўгавечнасці сучасных асфальтавых пакрыццяў гэта магло б мець у далейшым і значны эканамічны эфект. Ні ў якім разе не з'яўляецца мэтазгодным пакрыццё асфальтам брукаванага ўчастка вуліцы Савецкай ад вуліцы Н.Нёман да вуліцы Лапаціна, што прапануецца. Мае большы сэнс добраўпарадкаванне або замена брукаванага пакрыцця таго, што існуе. Мэтазгодна таксама правесці добраўпарадкаванне вуліц,якія маюць брукаванае пакрыццё (вуліца Матросава, фрагменты вуліц Камсамольская, Марозава і інш.) з прывядзеннем яго ў парадак,бартавых каменняў і аднаўленнем ходнікаў.

Шостае, у сувязі з тым, што 14 чэрвеня 2002 года спаўняецца 210 – годдзе наданню Барысаву гарадскога герба і поўнага магдэбурскага права, гэта падзея абавязкова павінна быць адлюстравана пры правядзенні свята, а асноўныя мерапрыемствы па святкаванню юбілею горада мэтазгодна праводзіць менавіта ў гэты дзень, які адзначаны для яго адной з найгалоўных падзеяў.

Сёмае, адзін з важных помнікоў любога старога горада – яго тапаніміка. Неабходна тэрміновае ўтварэнне тапанімічнай камісіі, якая б распрацавала прапановы па вяртанні гораду яго спрадвечных назваў вуліцам плошчам і завулкам. У прыватнасці, гораду мэтазгодна вярнуць такія назвы, што маюць глыбокія гістарычныя карэнні, як Саборная плошча, вуліцы Харугвавая, Швецкая і шмат іншых.

Восьмае, 2002 год - гэта і 190 гадавіна падзеяў вайны 1812 года. У сувязі з гэтым мэтазгодна скончыць у гістарычным цэнтры Барысава каля сабора на пастаменце, які быў узведзены для гэтай мэты напярэдадні 100 годдзя вайны і захаваўся да нашага часу добрым стане, узвядзенне помніка, які прысвечаны тым трагічным падзеям. Тым больш, што праект помніка збярогся і яго рэалізацыя не запатрабуе значных фінансавых укладанняў.

Дзявятае, любое свята павінна праводзіцца шчыра, а не фармальна. Ушанаванне памяці ўсіх тутэйшых папярэдніх пакаленняў павінна здзяйсняцца на іх, тутэйшай, а не на чужой мове. Таму, пры распрацоўцы мерапрыемстваў да юбілею і пры іх правядзенні павінны ўлічвацца статус беларускай мовы, якая павінна стаць пануючай на юбілеі, а яе прапагандзе павінна быць нададзена пашаннае месца.

***Рэдакцыйная рада газеты "Гоман Барысаўшчыны"***

***P.S.:*** *Дадзены зварот перададзены ў Барысаўскі гарвыканкам. Пасля паступлення адказу ён будзе адразу надрукаваны на старонках нашай газеты.*

# Дарога да святыняў

*5 чэрвеня 1998 года, у дзень 825-годдзя памяці святой Ефрасінні Полацкай у духоўным жыцці Барысаўшчыны адбылася значная падзея: адкрыцце Праваслаўнага Цэнтра імя прападобнай Ефрасінні Полацкай у вёсцы Барань.*

З далёкіх часоў захавалася паданне аб тым, як гэту веску наведвала Ефрасіння Полацкая па дарозе ў старажытны Полацак. Спынілася яна ля жыватворнай крыніцы на ўскрайку сяла, да якой і сёння здзяйсняюць паломніцтва прыхажане Свята-Пакроўскай царквы з навакольных вёсак і ўсе, хто жадае прычасціцца жывой вадою. Месца, дзе размясціўся Праваслаўны Цэнтр, а пры ім нядзельная школа і некалькі келляў жаночага манастыра, а таксама сельская бібліятэка, вельмі прыгожае і ўтульнае. Сапраўдны райскі куточак з векавымі соснамі, якія могуць шмат расказаць пра гісторыю роднага краю, што ўваходзіў раней у склад Полацкага княства. А яшчэ славіцца вёска Барань тым, што на перакрыжаванні некалькіх дарог, на лясным узвышшы пабудаваны храм у гонар святой блажэннай Ксеніі Пецярбургскай, які называюць храмам пакаяння апошніх пакаленняў за адрачэнне ад хрысціянскай культуры нашых продкаў.

Вось у такой атмасферы адраджэння духоўнасці, у цесным кантакце з Праваслаўным Цэнтрам, працуе Кісель Марыя Пятроўна, бібліятэкар Бараньскай сельскай бібліятэкі. Чалавек творчы, ініцыятыўны, яна арганізуе разнастайную работу з кнігай, імкнецца ўнесці свой сціплы ўклад у духоўнае выхаванне чытачоў. У бібліятэцы дзейнічае шмат цікавых выстаў: "Вечныя ісціны", "У дарогу жыцця без СНІДу", "Мой родны кут", "Па сцеже з казкай". Аб індывідуальнай рабоце з чытачамі ў гэтай бібліятэцы можна расказваць шмат. Вельмі падабаюцца актывістам клуба "Юныя сябры бібліятэкі" такія формы работы, як дыскусіі, гадзіны шчырай размовы, гадзіны пазнання па тэмах: "Што значыць знайсці сябе? ", "Чалавек. Свет. Духоўнасць.", "Што мы ведаем пра планету Зямлю?". Акрамя ўдзельнікаў гуртка запрашаюцца ўсе жадаючыя прыняць удзел у дыскусіях і размовах. Пастаянным у бібліятэцы стала правядзенне ўрокаў дабрыні і міласэрнасці "Душа паміж дабром і злом", "Дар спачування і спагады", "Як выхоўваць дзяцей, каб яны былі паслухмянымі". Пабудаваць даверлівыя зносіны з людзьмі – гэта асаблівасць работы сельскага бібліятэкара. Вельмі часта прыходзяць людзі ў Бараньскую бібліятэку, каб пагаварыць аб сваіх праблемах, атрымаць добрую параду. Марыя Пятроўна - чалавек неабыякавы, яна можа наладзіць кантакт з кожным наведвальнікам бібліятэкі, падтрымаць словам і справай. Нездарма ж на працягу некалькіх гадоў сяльчане аднагалосна выбіраюць яе старастам вёскі.

З моманту адкрыцця Праваслаўнага Цэнтра ў вёсцы стала традыцыяй правядзенне Каляднай ёлкі для дзетвары. Асабліва хвалюючае мерапрыемства адбылося 7 студзеня 2001 года, прысвечанае 2000-годдзю прыняцця Хрысціянства.

Адзін з дзён Тыдня дзіцячай кнігі ў Бараньскай бібліятэцы прысвячаўся знаёмству з укладам жыцця паслушніц жаночага манастыра. Ігумення матушка Людміла добразычліва аднеслася да дзяцей, пагутарыла з імі, запрасіла пачаставаць гарбатай з духмяных траў і дамашняй выпечкай, прыгатаванымі манахінямі. У час правядзення Тыдня адбылася Інфармацыйна-пазнавальная гадзіна "Краязнаўства – аснова духоўнага адраджэння", а таксама прэзентацыя выставы кніг, ілюстраваных мастаком – земляком Міколам Рыжым. У рамках Тыдня сям'і, з 16 па 22 траўня, сумесна з Праваслаўным Цэнтрам бібліятэкар Кісель М.П. правяла цыкл гутарак "Экалогія шлюбу", на якія запрашаліся не толькі сямейныя пары, але і моладзь, тыя, хто яшчэ толькі марыць аб сямейным жыцці. Падчас Тыдня ў бібліятэцы былі арганізаваны адкрыты прагляд літаратуры і перыёдыкі "Мараль: асабістая, сямейная, агульначалавечая" і пазнавальная гадзіна "Наркаманія і СНІД – вынікі грахоўнага жыцця".

Святар Свята-Пакроўскай царквы айцец Аляксей заўсёды аказвае дапамогу бібліятэкару ў падрыхтоўцы мерапрыемстваў па духоўнаму выхаванню моладзі і падлеткаў. Наколькі айцец Аляксей цікавы субяседнік і абаяльны чалавек удалося пераканацца сельскім бібліятэкарам раёна ў час наведвання духоўных святыняў вёскі Барань у час выязднога семінару ў Майсееўшчынскі сельскі Савет у красавіку бягучага года.


Царква ў вёсцы Барань

Не застаецца без увагі загадчыцы бібліятэкі і такая група чытачоў як пажылыя людзі. Усе, хто не можа наведваць бібліятэку, абслугоўваюцца на даму. Для гэтай катэгорыі чытачоў штогод ладзяцца мерапрыемствы да Дня пажылога чалавека. Запамінальнае мерапрыемства адбылося ў кастрычніку мінулага года. Называлася яно "Мае гады – мае багацце". Больш за 30 чалавек былі запрошаны ў чытальную залу бібліятэкі, дзе ва ўрачыстых абставінах ім былі выказаны словы падзякі і прапанавана забаўляльная праграма. Павіншаваць гасцей прыехалі ўдзельнікі лялечнага гуртка "Рамонак" з суседняй Максімаўскай бібліятэкі. Са слязамі на вачах дзякавалі за арганізацыю мерапрыемства пажылыя людзі Марыю Пятроўну.

Аб'яднаўшы намаганні, Праваслаўны Цэнтр і сельская бібліятэка, вядуць крапатлівую работу па развіццю духоўнасці жыхароў свайго рэгіена, асабліва моладзі і падлеткаў, вучаць здароваму ладу жыцця і міласэрнасці, дабрыні і шчырасці, павагі да ўсяго жывога на Зямлі.

*Л.Захарэвіч, метадыст аддзела маркетынгу Барысаўскай РЦБС*

# "Горад жадае выглядаць горадам на пачатку тысячагоддзя"

*Мастак Мікола Рыжы – для Барысава асоба вельмі адметная. Чалавек універсальнай творчасці – ён займаецца графікай, мае талент да скульптуры, зараз даволі ўдала працуе маслам.*

*Мы звярнуліся да яго, як да чалавека з добрым густам і ўнутраным пачуццём гармоніі з шэрагам пытанняў, якія датычыліся 900-годдзя горада.*



**- Мікалай, як вы ацэньваеце тое, што зараз робіцца ў горадзе ў сувязі з падрыхтоўкай да свята?**

- Тое, што сёння робіцца з праспектам і вуліцай Чапаева – гэта не справа. Балконы фарбуюцца ў аранжавы колер, а ніз фасадаў у салатавы. Каляровая гама падбіраецца безгустоўна. Нельга рабіць з горада гамбургскага пеўня. Само ўспрыняцце горада пасля гэтага шакіруе. Перад тым, як размалёўваць балконы, няблага было б заказаць каляровы праект прафесіяналам. Мне, як мастаку, балюча гэта бачыць.

Тое самае з так званай рэстаўрацыяй у старой частцы горада. Гістарычную забудову замазваюць, залепліваюць тынкоўкай. А фасады мелі іншы выгляд, балкончыкаў, напрыклад, ужо не засталося. Рэстаўрацыя – гэта аднаўленне, а не касметычны рамонт. Усё ж гэта будуецца не да свята, а на далейшае жыццё.

Збіраюцца ўсталяваць у старым горадзе помнік князю Барысу. Але грамадства не ведае, што робяць, хто гэта робіць? Горад мае права выбіраць, што будзе адлюстроўваць яго гісторыю. Чаму было не аб'явіць конкурс на лепшы праект помніка? Я б з задавальненнем зрабіў уласны праект, і няхай потым выбіралі б гараджане. Бо горад жадае выглядаць горадам на пачатку тысячагоддзя.

**Мікалай, вы як мастак бралі ўдзел у падрыхтоўцы да юбілею?**

- У Барысаве афіцыйна да мяне ніхто не звяртаўся. Айцец Міхаіл прасіў зрабіць макет храма Святой Троіцы такім, якім яго бачыць ён. Да гэтага праект храма быў распрацаваны Барысаўархітэктурпраектам, нават пачалася будоўля – каля "батарэй" быў закладзены падмурак будынка. Але нешта не спадабалася маскоўскай патрыярхіі і праект быў анулiраваны. Мне існуючы праект таксама не падабаецца.

Я намаляваў храм, прывязваючыся да існуючага падмурка. Гэта аднакупальны храм, які спалучае ў сабе сплаў класічнай і сучаснай архітэктуры з духам праваслаўя.

У Менску з нагоды 900-годдзя Барысава Белпошта заказала мне намаляваць капэрт і серыю паштовак. Мне хацелася б зрабіць нешта ў кантэксце з гісторыяй горада. Да такой даты трэба ўсхваляць горад у архітэктуры і асобах. Але адметнай архітэктуры ў горадзе амаль няма, асобы ёсць, але яны не "раскручаны". Увогуле жадаю паказаць, што гісторыя горада пачалася не ў 1917 годзе. Трэба верна вырашыць, праз што тут пайсці, праз якія сымбалі. На жаль, у Барысава няма пакуль "візітнай карткі", няма сымбаляў, такіх, як, напрыклад ,Эйфелева вежа ў Францыі.

**Якім вы бачыце далейшае пераўтварэнне Барысава?**

Калі б да мяне звярнуліся з просьбай, я б з задавальненнем зрабіў бы каляровую гаму і распрацаваў бы ландшафт калі не горада, то ўласнага раёна. Гэты юбілей – грандыёзнае мерапрыемства, і мне ёсць што да яго прапанаваць. Але, здаецца, гэта тут нікому не патрэбна.

*С.Нялюбін*

# Жнівень

Жнівень - апошні месяц лета. Назва ад слова "жніво". Вышыня Сонца над гарызонтам у поўдзень 15-га 50,3°. Працягласць светлага часу сутак хутка памяншаецца. Сярэдняя тэмпература паветра 16-18°С. Звычайна жнівень халаднейшы за ліпень, але прыкладна раз у 5 гадоў бывае наадварот. У другой палове месяца магчымы замаразкі на глебе, пераважна ў катлавінах, далінах, на асушаных тарфяніках. Адносная вільготнасць паветра ў жніўні не ніжэй 70%. Колькасць вільготных дзён 4-6. Павялічваецца воблачнасць, памяншаецца працягласць сонечнага ззяння. Па агульнай воблачнасці ў сярэднім налічваецца 3-5 ясных і 7-9 пахмурных дзён, у астатнія дні месяца неба паўяснае. Дажджы пераважна ліўневыя, кароткачасовыя, колькасць дзён з ападкамі ў сярэднім 14-16. Увільгатненне глебы дастатковае, нават залішняе, аб гэтым сведчаць і народныя прыкметы. Ліўні з моцнымі вятрамі выклікаюць палягане збожжавых культур. Здараецца град. У асобныя гады на лёгкіх глебах назіраецца і недахоп вільгаці, што адмоўна адбіваецца на росце клубняў бульбы і паяўленні руні.

**Краснае лецейка нікому не надакучыла.**

**Што поле ўродзіць, тое жнівень пазвозіць.**

**Кожная хата ў жніўні багата.**

У жніўні яшчэ цвітуць многія травы, але ў другой палове месяца іх ужо значна менш. На адной расліне можна знайсці і кветкі, і адцвіўшыя суквецці са спелымі пладамі. Выспеўшае насенне рассейваецца ветрам, пераносіцца птушкамі і жывёламі. Спыняецца "цвіценне вады". Заканчваецца ўборка азімых, убіраюць ярыну, лён-даўгунец, скараспелую бульбу, агуркі, памідоры, сеюць азімыя. Лепшыя тэрміны сяўбы на поўначы і паўночным усходзе 15-25, у цэнтральных раёнах 25-30 жніўня, у паўднёвай і паўднёва-заходняй частцы рэспублікі – на мяжы жніўня-верасня. Адрастае атава траў, нарыхтоўваюць кармы. Даспявае садавіна, рабіна, шыпшына. У разгары збор брусніц, касцяніц, ажыны. Яшчэ шмат насякомых, на палях трапляюцца каларадскія жукі ўсіх узростаў і іх лічынкі. Паступова пачынаюць адлятаць у вырай птушкі, першымі на сярэдзіне месяца здымаюцца чорныя стрыжы, крыху пазней – ластаўкі, у канцы жніўня – зязюлі, івалгі, валасянкі і інш. Заканчваецца лінька ў вадаплаўчых птушак. Размнажаюцца змеі і яшчаркі, пачынаецца гон у казуль. Выходзяць на паляванне маладыя ваўкі. Нараджаюцца зайчаняты апошніх вывадкаў. Жнівень - самы багаты месяц на грыбы, растуць лісічкі, ваўнянкі, валуі, сыраежкі, падасінавікі, падбярозавікі, махавікі, баравікі, маслякі, рыжыкі. Працягваюць збор лекавых раслін, у тым ліку каранёў дзягілю, дзівасілу, валяр'яну, пладоў шыпшыны, ядлоўцу, чаромхі, шышак вольхі і хмелю.

*М Пучыла*

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 28 за 1996 - 2001 гг.)*

За 14 лістапада праз Бярэзіну пераправіліся каля 7000 жаўнераў. Усю ноч з 14 на 15 без аніякіх праблем пераправілася артылерыя і абозы. 15 лістапада бесперашкодны пераход французаў на правы бераг працягваўся. У гэты дзень праз Бярэзіну пераправіўся сам Напалеон (адбылося гэта ў гадзіну дня) са сваёй гвардыяй, войскі Нэя і рэшткі корпуса Даву. Напалеон са сваёй гвардыяй размясціўся на хутары Заніўкі. Там жа быў размешчаны штаб. Французскага манарха вельмі здзівіла тое, што пераправа праз Гайну на Зембін была ў добрым стане.



*Выгляд помнікаў у Студзёнцы, які быў усталяваны на пачатку XX стагоддзя (зверху)*

*Помнік, які прысвечаны падзеям 1812 года ў Студзёнцы і знаходзіцца каля шашы з Барысава на Зембін (знізу)*





*Помнік, які знаходзіцца зараз на месцы пераправы французаў у 1812 годзе ў Стедзёнцы (зверху)*

Яшчэ да пераправы Напалеона праз Бярэзіну – у ноч з 14 на 15 лістапада - руская армія Вітгенштэйна, якая ішла на Барысаў з поўначы, была ў Кастрыцы. 15 лістапада яму ўжо было вядома аб пераправе Напалеона праз Бярэзіну ў Студзёнцы. Вітгенштэйн накіраваўся да Старабарысава, каб адрэзаць французам шлях адыходу. Але ён спазніўся. На гэты момант у нашым горадзе заставаліся толькі войскі французскага генерала Партуна, якія налічвалі каля 9000 жаўнераў. Да трох гадзін дня авангард корпуса Вітгенштэйна, якім кіраваў палкоўнік Властаў, падышоў да Старабарысава, дзе разбіў апошнюю калону ар'ергарда напалеонаўскай арміі, што рушыла да пераправы. Пасля таго рускае войска перакрыла шлях да Студзёнкі і стала чакаць адыходу з Барысава рэшткаў французскага войска.

Перад адыходам з горада французы разрабавалі тое, што яшчэ заставалася, і спалілі вялікую колькасць будынкаў. Бліжэй да вечара на падыходах да Старабарысава паказаліся атрады Партуна. Спробы французаў прабіцца ў бок Студзёнкі або зрабіць абыходны манёўр, засталіся марнымі. Пасля ўпартых баёў 15 лістапада войска Партуна здалося. У гэты ж дзень з боку Лошніцы ў Барысаў увайшлі перадавыя атрады Кутузава, якімі кіравалі Платаў і Сяславін. Насустрач ім у Барысаў увайшоў пяхотны полк Чычагова.

Яшчэ да капітуляцыі Партуна са Старабарысава ў Студзёнку, дзе 15 лістапада працягвалася пераправа, быў накіраваны атрад Властава, які нанёс удар у тыл французам. Бой цягнуўся да позняга вечара. На пачатку дня 16 лістапада амаль усё войска Напалеона было на правым беразе Бярэзіны. Там жа было і саюзнае войска Дамброўскага. На левым беразе заставаўся толькі корпус Віктора і абозы са шматлікім цывільным насельніцтвам.

16 лістапада да Студзёнкі падышоў Вітгенштэйн. Адразу быў распачаты абстрэл з гармат паміж Бярэзінай і Студзёнкай абозаў цывільных французаў і тых вайскоўцаў, якія адсталі ад сваіх атрадаў. Узнікла паніка, натоўп уцекачоў кінуўся да пераправы. Амаль усе яны загінулі або ў выніку абстрэлу былі заціснуты пры даўцы або ў студзёнай вадзе Бярэзіны. З французскага боку націск рускага войска стрымліваў атрад Віктора, які быў размешчаны на ўзвышшы каля вёскі. Вітгенштэйн з-за значных страт свайго войска вырашыў не ісці з занятых пазіцый у атаку і застаўся 17 лістапада ў такім становішчы чакаць падыходу асноўных сіл Кутузава. На правым беразе тым часам усё абмяжоўвалася толькі перастрэлкамі.

*(Працяг будзе)*
***М.Мацельскі***

# Ці быць юбілейнай манеце?

Як нам паведаміў наш чытач Алесь Шустоўскі, ён звярнуўся да Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь з прапановаю выпусціць у абарачэнне юбілейную манету вартасцю ў 900 рублёў, якая б была прысвечана 900-годдзю Барысава. Па яго словах, прапаганда старажытнай гісторыі беларускіх гарадоў і мястэчак (у далейшым – Полацака, Мазыра, Крупак, Зембіна і г.д) праз нумізматыку вартая ўвагі і заслугоўвае ўсебаковай прапрацоўкі.

І вось нядаўна з Нацыянальнага банка, куды была пераадрасавана прапанова, быў атрыманы адказ, у якім гаворыцца, што на сённяшні час распрацоўваецца план выпуску памятных манет на 2002 год. Прапанова аб выпуску памятнай манеты, якая б была прысвечана 900-годдзю Барысава, будзе абмеркавана на паседжанні адпаведнай рабочай групы.

Дык што, можа, і сапраўды мы зможам патрымаць у руках манету, якая будзе нагадваць нам аб юбілеі і старажытнай гісторыі нашага горада?



НАЦЫЯНАЛЬНЫ БАНК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

НАЦИОНАЛЬНЫЙ БАНК РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Шустовскому А.Т.

О выпуске в обращение памятных монет

Уважаемый Алесь Терентьевич!

Национальный банк Республики Беларусь рассмотрел Ваше обращение, поступившее в Национальный банк из Министерства финансов, и сообщает следующее.

С учетом предложений Национальной академии наук Беларуси, Министерства культуры и других заинтересованных ведомств Национальным банком разрабатывается годовой тематический план выпуска памятных монет, который после утверждения Советом директоров Национального банка публикуется в средствах массовой информации.

В настоящее время разрабатывается план выпуска памятных монет на 2002 год. Ваше предложение о выпуске памятных монет, посвященных городам Борисову и Крупки, будет рассмотрено на заседании Рабочей группы по подготовке к выпуску в обращение памятных монет.

Благодарим за Ваше предложение.

Директор Департамента по работе с ценностями

*Ліст з Нацыянальнага банка (зверху) і узор манеты, які прапануецца (знізу)*




# 900-гадовая хроніка летапісу Барысава ў асобах

Калі зазірнуць у мінулыя стагоддзі, то можна высветліць, што Барысаў наведвалі такія вядомыя асобы (не кажучы пра заснавальніка горада князя Барыса Усяслававіча), як вялікія князі Вялікага Княства Літоўскага Альгерд, Вітаўт, Свідрыгайла, Аляксандр, Жыгімонт І Стары, Жыгімонт ІІ Аўгуст, гетман Вялікага Княства Літоўскага Канстанцін Астрожскі, каралі польскія і вялікія князі літоўскія Жыгімонт ІІІ Ваза, Уладзіслаў IV, Ян Казімір, маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч, расійскія імператары Пётр І і Павел І, французскі імператар Напалеон І ды шмат хто яшчэ з асобаў, якія пакінулі тым ці іншым чынам след у гісторыі.

Не застаўся па-за ўвагай наш горад і ў XX стагоддзі. Пабываў тут усесаюзны стараста М.Калінін. У 1941 годзе Барысаў, згодна дырэктывы імперскага міністра авіяцыі Г.Герынга, быў выбраны як адзін з галоўных цэнтраў размяшчэння нямецкага гандлёвага таварыства "OST". Летам 1941 года ў былым маёнтку ў Старабарысаве знаходзіўся штаб фронту групы арміі "Цэнтр". 4-га жніўня таго ж года каля вёскі Дзямідаўка прызямліўся адмысловы самалёт "Люфтвафэ" з самім фюрэрам ІІІ рэйха, каб прысутнічаць на нарадзе ў Старабарысаве, дзе разглядалася пытанне вызначэння месца нанясення галоўнага ўдара вайскаў вермахта.

У наш час Барысаў наведваў першы прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка.

А ці не занадта шмат увагі было нададзена нашаму правінцыйнаму месту з боку тых, хто тварыў гісторыю і кіраваў народамі?

***А.Шустоўскі***

# Што было, што стала...

Цэнтральнаму барысаўскаму парку імя Горкага больш за семдзесят год. У пасляваенны час ён выглядаў лепш чым зараз.

Каб увайсці ў парк, трэба было купіць білет. Уздоўж цэнтральнай алеі стаяла шмат лавак, а на дрэвах віселі партрэты выдатных людзей.

У 80-х гадах у парку была адкрыта більярдная і відэасалон.

На даны момант гэтага няма. Цяпер палова атракцыёнаў не працуе, а парк служыць шляхам на новабарысаўскі рынак.

***М.Нячаеў, А.Маўчанаў, юнкоры***

# Меламаны – для вас сюрпрыз!

Унікальны кампакт дыск "Барысаўскі андэграўнд" убачыў свет напрыканцы жніўня. У зборнік увайшлі лепшыя песні васьмі барысаўскіх гуртоў, якія працуюць у розных рок - накірунках. Гэта першая зборка за ўсю гісторыю барысаўскай музыкі.

Зараз "залатая" зборка налічвае 15 хітоў, але складальнікі кажуць, што ў бліжэйшы час дыск будзе пашыраны, у асноўным за кошт беларускамоўных кампазіцый. Дыск існуе пакуль ў адзіным асобніку, але ў хуткім часе яго плануецца растыражаваць і распаўсюдзіць як сярод фанатаў гуртоў, так і проста прыхільнікаў мясцовай музыкі.

Для аматараў можна дадаць, што ў зборнік увайшлі такія песні, як "На горизонте" 7-га канона, "Умираю" Дзеніса Фа і "Молодость моя" Разгрома.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Спас

Спас – старажытнае свята земляробчага календара, прымеркаванае да часу выспявання садавіны і гародніны. Ён з'яўляўся мяжой паміж летнім і асеннім цыкламі работ. У асобных мясцовасцях, у залежнасці ад прыродных умоў, са Спаса пачыналі сяўбу азімых, капалі раннюю бульбу і падглядвалі пчол,- гэта быў стары звычай. На Беларусі найбольш пашыраны быў Спас - яблычны, да якога старыя людзі не елі яблыкаў. Царква прымеркавала да яго свята "праабражэнне Хрыста", да народных рытуалаў дабавілася асвячэнне пладоў і насення. Усе імкнуліся пасласавацца на Спаса садавінай. Наладжваліся кірмашы, там прадавалі мёд, садавіну, гародніну. Паводле народнага календара, са Спаса пачыналася ранняе бабіна лета: "Прыйшоў Спас – і лета ад нас".

З народных прыкмет. Прыйшоў Спас – усяму час.

***М Пучыла***

# Конкурс школьных і вучнёўскіх газет

Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" праводзіць конкурс школьных і вучнёўскіх газет. Для ўдзелу ў ім прымаюцца ад рэдкалегіі ці рэдактараў не менш двух асобных выдання за апошнія 5 год (не менш аднаго з іх за 2000г.). Газеты (брашуры, часопісы і г. д.) могуць мець адвольны фармат і афармленне (ад рукапіснага да кампутарнага). Пры правядзенні вынікаў конкурсу асноўны прыярытэт будзе надавацца тым выданням, у якіх акрамя добрага афармлення знойдуць належнае асвятленне пытанні краязнаўства, вырашэнне надзённых праблем сваёй школы, вёскі, раёна.

У кастрычніку аўтарытэтнае журы з ліку вядомых журналістаў моладзевых выданняў, выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка падвядзе вынікі канкурсу і запросіць прадстаўнікоў лепшых газет у Менск, дзе пераможцы будуць узнагароджаны адпаведнымі дыпломамі, а таксама дыктафонамі і фотаапаратамі.

Дасылайце ці прыносце свае працы да 30 верасня 2001 г. па адрасу: **220085, Менск, пр-т Ракасоўскага, 98. СШ № 2 (На конкурс).** Тэл. **(017) 2483202 або 2740472.**

# Забытыя гульні

Дзіцячая гульня "жмуркі" ("хавалкі", "хованкі", "плюшч", "кулюкушкі"). Гуляюць на вуліцы і ў хаце. У хаце - гэта "сляпак": гульцу завязваюць вочы, і ён ловіць астатніх. Вылучаюцца і больш тэатралізаваныя "жмуркі", вядомыя пад назвамі "слепа кура", "лавіць куры", "у ката", "дуб" і інш. Эпізоды, падобныя да "жмурак", адлюстраваны на палях некаторых сярэдневяковых кніг.

Дзіцячая гульня "на лодцы". Садзіліся два хлопчыкі на лаўку адзін да аднаго тварам. Трэці забіраў у іх шапкі, выходзіў да печы. Потым вяртаўся і адзяваў гульцам шапкі. Хлопцы на лаўцы "вяслуюць" і прыгаворваюць: "Едзем мы на лодцы. (Будзем умывацца), (ШапкамІ мяняцца), (ШапкамІ ўцірацца). Яны мяняюцца шапкамі і выціраюць імі твар. А як вытруцца, усе смяюцца, бо адзін сядзіць ужо з чорным тварам (а то і абодва). Той, хто хадзіў да печы з шапкамі, выпацкаў іх там сажай. Звычайна на гульню запрашалі навічкоў. А той, хто ведаў яе, іншы раз наўмысна дно сваёй шапкі вымазваў дома, і яго брудная шапка пападалася сябру.

"Гула", народная гульня. Удзельнікі дзяліліся на 2 дружыны. У кожнай выбіралі "вялікага" ці "выбраннік" - дужага хлопца. Ён кідаў у бок праціўніка каменнае або жалезнае ядро, у некаторых мясцовасцях - кола воза. Гульцы з другой каманды імкнуліся хутчэй спыніць яе. З таго месца, дзе гула спынена, "выбраннік" кідаў яго назад. Перамагала дружына, якая перакіне гулу першай за ўмоўную мяжу. Гэта гульня дужых і спрытных.

*Падрыхтаваў М.Пучыла*



*Бярэзіна – гэта экасістэма, якая ўключае акрамя дзесяткаў відаў рыб мноства відаў насякомых, земнаводных, іншых прадстаўнікоў фауны, сотні відаў раслін. Памятайце пра гэта, калі адпачываеце на яе берагах.*

# Футбольны агляд

## Гайна

Вынікі матчаў з удзелам Гайны, што адбыліся за апошні час:

**Зорка** (Мар'іна Горка) – **Гайна,** 4:2 (Круглік, Дзем'яновіч);

**Камунальнік – Гайна**, 1:5 (Свядыш 5 галоў);

**Колас – Гайна**, 3:3 (Свядыш, Жоров, Круглік);

**Гайна – Пліса** (Смалявічы), 4:2 (Свядыш, Лампартэр 2 галы, Быкаў);

**Любань – Гайна**, 3:3 (Свядыш 3 галы).

У параўнанні з папярэднім годам Гайна прайшла гэты адрэзак горш. Калі летась каманда не пакідала першы радок на працягу ўсяго сезона, то зараз яна цвёрда замацавалася на другой пазіцыяй. Прычынамі таму галоўным чынам з'яўляюцца эканамічныя праблемы. Калі ўважліва паглядзець на вынікі каманды, можна зрабіць выснову, што каманда шмат забівае галоў, але ў той самы час яна шмат і прапускае. Як вядома, каб перамагаць трэба не толькі забіваць, але і як мага радзей даваць праціўніку трапляць у свае вароты.

* * *

Гулец барысаўскай Гайны Дзмітрый Верстак заключыў кантракт з гарадзенскім Нёманам.

## БАТЭ

Вынікі гульняў першанства Беларусі апошняга часу:

**БАТЭ - Гомель**, 1:0 (Малаш);

**БАТЭ - Дынама** (Менск), 1:3 (Беганскі);

**БАТЭ - Нафтан - Дэвон**, 4:1 (Кабец, Кутузаў, Канцавы, Аляшкевіч).

За апошні месяц футбольны клуб БАТЭ правёў чатыры гульні. Каманда набрала 50% ачкоў. Вынік сумны для барысаўскіх заўзятараў, якія звыкліся да перамогаў любімай каманды на ўнутраным першанстве. Прычынамі няроўнага выступлення каманды ў другой палове лета з'яўляецца хутчэй за ўсё ігравы спад, які ўласцівы для ўсіх каманд у ходзе першанства. Будзем верыць, што ў гульні супраць аўтсайдэра сёлетняга першанства спад скончыўся. Але цяжка меркаваць па гульнях з камандамі такога ўзроўню. Іншай прычынай такога няўдалага выступлення каманды з'яўляецца продаж Леаніда Лагуна ў маскоўскае Тарпеда. Вялікім плюсам для каманды з'яўляецца тое, што маладым гульцам , якіх фактычна да пачатку першанства барысаўская заўзятары не чулі, не заўсёды атрымліваецца паказваць неабходную гульню. Але галоўнае, што ў іх атрымліваецца забіваць.

## Кубак UEFA

Вынікі папярэдняга раўнда:

**Дынама (Тбілісі) – БАТЭ**, 2:1 (Ганчарык);

**БАТЭ –Дынама** (Тбілісі), 4:1 (Лісоўскі, Кутузаў з пенальці, Лашанкоў, Грыгараў).

У першым матчы, што адбыўся ў Тбілісі наша каманда саступіла гаспадарам па ўсіх кампанентах гульні. Тбілісцы часцей білі ў створы варот, валодалі мячом. За тры хвіліны да канца гульні грузінскія футбалісты выйгравалі з лікам 2:0. Аднак гульня працягваецца 90 хвілін, аб чым яны мусіць забыліся. За адну хвіліну да канца асноўнага часу ў барысаўцаў адзначыўся Ганчарык.

У другой гульні становішча змянілася. З першых хвілін гульні барысаўская каманда прыціснула да варот Дынамаўцаў. Забіць гол было справай часу і тэхнікі. Лік адкрыў са штрафнога ўдару Лісоўскі. Тбілісцы працягвалі абараняцца далей, але пры дапамозе грубасцей. На дваццаць чацвёртай хвіліне быў у чарговы раз збіты Лашанкоў і гулец гасцей Бурдулі быў удалёны з поля. Калі заставалася гуляць у першым тайме дзве хвіліны, суддзя прызначае пенальці за гульню рукой абаронцы гасцей Манцкаву. З рашэннем арбітара не пагадзіўся брамнік Грышыкашвілі і за гэта ён таксама быў пазбаўлены права гуляць надалей. Маючы перавагу ў два гульцы, барысаўцы паспяхова справіліся з абаронай гасцей. На пачатку другога тайму абарону гасцей у чарговы раз прарваў Кутузаў і аддаў перадачу Лашанкову, які зрабіў лік 3:0. Напрыканцы гульні чарговы рэйд у тыл праціўніка здзейсніў Кутузаў, які аддаў пас Канцавому, ў якога ўдар не атрымаўся. Мяч трапіў да Грыгарава, які павялічыў лік да 4:0.

БАТЭ стала першай камандай на Беларусі, што ўпершыню за апошнія шэсць год трапіла ў асноўную сетку кубка UEFA. Апошні раз гэта было з менскім Дынама ў 1995 годзе, калі беларускія футбалісты з цяжкасцямі перадолелі каманду Універсітатэ (Крайова) з Румыніі.

Наступным праціўнікам БАТЭ ў кубку UEFA будзе італьянскі клуб з Мілана.

*С.Чарнуха*

### Хто што мае

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Брамнікі** | **Г** | **П/М** | **П** | **У** | |
| Аляксандр Федаровіч | 11 | 14 | - | - | |
| Юры Жыўноў | 5 | 5 | - | - | |
| **Абаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Уладзімір Нявінскі | 13 | 1 | - | 1 | - |
| Генадзь Мардас | 15 | - | 1 | 3 | - |
| Віталь Рагожкін | 14 | 1 | 6 | 3 | - |
| Дзмітры Малаш | 6 | 1 | - | - | - |
| Віктар Ганчарэнка | 9 | - | 1 | - | - |
| Віталь Панасюк | 5 | - | - | - | - |
| Сяргей Кузняцоў | 1 | - | - | - | - |
| **Паўабаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Яўген Лашанкоў | 15 | - | 3 | 1 | - |
| Леанід Лагун | 13 | 4 | 4 | 1 | - |
| Аляксей Бага | 14 | 1 | - | 4 | - |
| Аляксандр Цярэнцеў | 9 | - | - | - | - |
| Сяргей Мірончык | 9 | - | - | - | - |
| Аляксандр Лісоўскі | 7 | - | 2 | 1 | - |
| Аляксандр Кабец | 1 | 1 | - | - | - |
| Аляшкевіч | 1 | 1 | - | - | - |
| **Нападнікі** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Віталь Кутузаў | 16 | 13 | 9 | - | - |
| Арцём Ганчарык | 14 | 1 | 5 | - | - |
| Вячаслаў Грыгараў | 15 | 2 | 1 | - | - |
| Арцём Канцавы | 12 | 5 | 1 | - | - |
| Павел Бяганскі | 10 | 6 | 1 | - | - |
| Уладзімір Таран | 3 | - | - | - | - |

**Г** –гульні, **П/М** – прапушчана мячоў, **З/М** – забіта мячоў, **Пс** – пасы, **П** – папярэджанні, **У** – удаленні.

**Заўвага:** адзін гол у свае вароты забіў Лашанкоў

### Табліца разыграшу першанства Беларусі пасля 16 тураў

| Каманда | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Белшына (Бабруйск) | 16 | 12 | 2 | 2 | 26:9 | 38 |
| 2. БАТЭ (Барысаў) | 16 | 11 | 2 | 3 | 37:19 | 35 |
| 3. Славія (Мозыр) | 15 | 9 | 2 | 4 | 32:12 | 29 |
| 4.Нёман–Белкард(Горадня) | 16 | 8 | 5 | 3 | 27:11 | 29 |
| 5. Тарпеда-МАЗ (Менск) | 16 | 8 | 4 | 4 | 22:17 | 28 |
| 6. Дынама (Менск) | 16 | 8 | 3 | 5 | 29:15 | 27 |
| 7. Шахцёр (Салігорск) | 16 | 7 | 5 | 4 | 23:16 | 26 |
| 8. Гомель | 16 | 7 | 3 | 6 | 15:13 | 24 |
| 9.Днепр-Трансмаш(Маг-ў) | 16 | 7 | 3 | 6 | 23:23 | 24 |
| 10. Дынама (Бярэсце) | 16 | 6 | 1 | 9 | 18:25 | 19 |
| 11. Лакаматыў-96(Віцебск) | 16 | 4 | 1 | 11 | 12:35 | 13 |
| 12. Маладзечна-2000 | 16 | 3 | 3 | 10 | 13:35 | 12 |
| 13. Ведрыч-97 (Рэчыца) | 15 | 2 | 1 | 12 | 10:30 | 7 |
| 14. Нафтан (Наваполацак) | 16 | 1 | 1 | 14 | 8:35 | 4 |

**Г** - гульняў, **В** - выйграна, **Н** - ніч"іх, **П** - паразаў, **М** - колькасць забітых і прапушчаных мячоў, **А** - ачкі.

Са становішча каманд можна заўважыць, што за медалі першанства Рэспублікі Беларусь па футболу будуць борацца першыя сем каманд. Каманды, якія займаюць з восьмага па 10месца, пазмагаюцца за "залатую сярэдзіну". За права застацца ў вышэйшай лізе будуць борацца каманды з адзінаццатага па чатырнаццатае месцы.

# 3 гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

Рукі, як і твар, ніколі нельга мыць вадой з калодзежа і крыніцы, а толькі дажджавой ці ўзятай з ракі альбо сажалкі. Замест мыла, якое робіць скуру грубай, выклікае лушчэнне, з'яўленне трэшчын, найлепш ужываць міндальнае вотруб'е (калі не маеце дома ў дастатковай колькасці, яго можна лёгка набыць у аптэцы), а не дык пшанічнае ці муку з гароху, фасолі, бобу.

Калі ж скура пачала лупіцца, варта разагрэць увечары над свечкай у лыжцы піва з кавалачкам чыстага тлушчу казы, намазаць гэтай сумессю рукі і спаць у пальчатках усю ноч. Паўтарыўшы тое некалькі вечароў, убачыце, што рукі зрабіліся цалкам гладкімі і далікатнымі.

Яшчэ расціраюць какававы алей з жаўтком крута зваранага яйка і ўжываюць, як вышэй апісана.

*Перадаў М.Пучыла*

# Канцэрт -акцыя

18 жніўня на гарадскім стадзіёне адбылася канцэрт у падтрымку саюза Беларусі і Расіі. За тры гадзіны да яго пачатку з бліжэйшых крамаў былі ўбраны танныя гарэлачныя вырабы.

У канцэрце прынялі ўдзел артысты як з Беларусі, так і з Расіі. Праграму вёў вядучы перадачы "Адысея каманды Кухто". На пачатку для зараду бодрасці выступалі тутэйшыя музыкі і спевакі. Калі было б наадварот, то наўрад ці публіка засталася іх слухаць. Узровень майстэрства гасцей быў аб'ектыўна вышэй. Уласна кажучы большасць народу прыйшло на канцэрт менавіта каб паглядзець на іх.

Вялікія ўражанні пакінуў гурт "Дзюна". З-за сваёй неардынарнай манеры выступлення хлопцы з Караганды вельмі папулярныя на 1/6 частцы зянога шара. На канцэрце выступілі таксама Наталі, "Ліцэй", "Белы арол" і іншыя артысты.

*С.Чарнуха*

Нагадваем, што кошт аднаго слова прыватнай аб'явы пры звычайным шрыфце - 40 рублёў, пры выдзяленні аб'явы - 50 руб. Рэдакцыя пакідае за сабою права друку абвестак.
Кошт 1 см² для блочнай рэкламы ў нашай газеце -120 рублёў (з падаткам на дабаўленую вартасць). Кошт 1 см² рэкламы на першай старонцы - 198 рублёў (з ПДВ).
Усе аб'явы і рэклама друкуюцца выключна па – беларуску.
**Даведкі па тэлефоне 3-94-68.**

## Прыватныя абвесткі

### Здыму

- Кватэру ў цэнтры горада з тэлефонам, т. 6-67-15
- Кватэру ў цэнтры горада, т.3-67-84

### Падзяка

- Выказваю шчырую падзяку ўсяму неўралагічнаму калектыву 1-й савецкай бальніцы. Асабліва хачу падзякаваць Кацярыну Валянцінаўну (загадчыцу), лечачых ўрачоў Нэлу Халфёдаўну, Барыса Рыгоравіча, медсястру Любоў Рыгораўну, санітарак Галіну і Ларысу. Нізкі паклон Вам і здароўя на доўгія гады.

*Г.Аніскові*

ТОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ **Купон для бясплатных прыватных абвестак**

Рубрыка (куплю, прадам ці інш.) ____________

Тэкст ____________

____________

____________

Тэлефон ________ Прозвішча ____________

Адрас ____________

Пашпарт ______ № ____________

*Аб'явы без тэлефона і ўказання пашпартных дадзеных не прымаюцца*

***Купон дасылайце на адрас: 222120, а/я 43, Барысаў-1***

# Крыжаванка

*складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – былы тутэйшы землеўладальнік; 2 – вёска на Барысаўшчыне; 3 – старая назва адной з плошчаў у Барысаве; 4 – тутэйшы мастак; 5 – вуліца ў Барысаве; 6 – старая назва адной з вуліц Барысава; 7 вёска на Барысаўшчыне; 8 - вёска на Барысаўшчыне; 9 - нападнік футбольнага клуба БАТЭ; 10 – былыя тутэйшыя землеўладальнікі; 11 – былы тутэйшы кінагэатр; 12 –вуліца ў Барысаве.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 7(28): 1 - Рэвалюцыі; 2 - Перамога; 3 - Старабарысаў; 4 - Студзёнка; 5 - Лагун; 6 - Федаровіч; 7 - Святое; 8 - Лісоўскі; 9 - Лашанкоў; 10 – Забашавічы; 11 – Гайна; 12 – Брылі; 13 - Нявінскі.




*На адным з тутэйшых доўгабудаў. Колькі год прастаяў, ці не надышоў час яго ўбіраць?*

# Парады ад Наталлі

**Цыбуля - парэй у цесце**

800г. цыбулі-парэю, 0,75 шклянкі смятаны, 2 яйкі, 80 г. тлушчу, 100 г. мукі, 0,3 ч лыжкі соды, лімонная кіслата, соль

Парэй ачысціць, добра прамыць, адрэзаць зяленыя лісты такім чынам, каб парэй быў даўжынёй 10-15 см. Падрыхтаваць цеста - ва ўзбітыя яйкі па чарзе дадаваць муку і смятану, у канцы соду і соль. Цеста павінна быць больш густым, чым для бліноў. Парэй зварыць у падсоленай вадзе, дастаць, ахаладзіць. З дапамогай відэльцаў абмакваць у цеста і смажыць на разагрэтым тлушчы да залацістага колеру. Асобна падаць таматны соус.

Па гэтаму ж рэцэпту можна прыгатаваць земляныя грушы (тапінамбуры) ў цесце.

# Ці ведаеце вы, што...

Па стану на **1910** год у Барысаве было **345** буйных гандлёва – прамысловых прадпрыемстваў і крамаў і **227** дробных гандлёва – прамысловых прадпрыемстваў і крамаў.

Тавараразварот буйных з іх па Барысаву складаў **1 736 140** рублёў у год, па Нова-Барысаву – **2 017 765** рублёў у год.

Тавараразварот дробных гандлёва – прамысловых прадпрыемстваў і крамаў па ўсяму гораду складаў каля **1000 000** рублёў у год.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

9: 235428798, 256723414, 566490531, 994632711.

7: 0909001, 1834567, 2145719, 3917342, 6430484, 7513095, 8972420, 9243121.

6: 128642, 237410, 414303, 465789.

5: 06879, 10873, 12345, 13579, 15051, 47247, 55540, 62321, 71867, 82873, 89051, 89241.

4: 1579, 1657, 1752, 1994, 2001, 2716, 3294, 3457, 3878, 3905, 5678, 6310, 7005, 8212.

3: 222, 321, 357, 411, 430, 443, 472, 563, 574, 645, 656, 694, 714, 731, 747, 764, 789, 794, 812, 932.

2: 14, 15, 18, 20, 23, 32, 42, 61, 94, 97.




# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.




**Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" № 7(28)**





# Конкурс для заўзятараў футбола

Па выніках чатырох тураў лідэрамі з'яўляюцца:
**Віктар Бойка** (БАТЭ-Юні) – 14 ачкоў;
**Ігар Балаболаў** (Вікінг) – 13 ачкоў;
**Сяргей Анісіевіч** (ФК "Паліміз") – 12 ачкоў;
**Сяргей Пыжык** (Жыве Беларусь) – 11 ачкоў;
**Сяргей Корсук** (С.К.Н) – 9 ачкоў;
**Сяргей Корсук** (С.К.) – 9 ачкоў;
**Мікалай Камінскі** (А) – 9 ачкоў;

Нагадваем, што ў конкурсе можа прыняць удзел любы тутэйшы футбольны заўзятар. Падключыцца да яго можна ў любы час. Аднак, чым пазней вы пачынаеце, тым складаней будзе вам яго выйграць.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна выразаць картку яго ўдзельніка з бягучага нумара газеты, запоўніць яе і даслаць ва ўказаны тэрмін на адрас газеты **(222120, Барысаў-1, а/с 43)**. Тэрмін будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

Калі вы лічыце, што пераможа першая каманда, у полі для адказу ўказваецца лічба "1". Калі, на ваш погляд, пераможа другая каманда – указваецца "2", калі нічыя – "Х". За кожны правільны адказ удзельніку конкурсу будзе нададзена па аднаму ачку. На картцы насупраць кожнага матча можа быць указаны толькі адзін вынік. Ад аднаго ўдзельніка могуць дасылацца некалькі картак з рознымі варыянтамі адказаў, але пры гэтым кожная з іх абавязкова павінна мець сваю ўмоўную назву. Для кожнай умоўнай назвы балы будуць падлічвацца асобна. Пры гэтым ігрок будзе выступаць як некалькі суб'ектаў конкурсу, кожны з якіх мае асабістую назву і мае шанец атрымаць прыз. Перамогуць тыя, хто за ўвесь час правядзення конкурсу – да кастрычніка 2001 года ўключна набярэ большую колькасць балаў.

**Пераможцаў конкурсу чакаюць узнагароды.**

У пятым туры канкурсу неабходна спрагназаваць вынікі гульняў першынства Беларусі па футболу, якія адбудуцца 9 верасня. Тэрмін падачы картак 8 верасня.

Жадаем поспехаў!

## Картка ўдзельніка конкурсу

Пяты тур

| | |
|---|---|
| Тарпеда МАЗ - Славія | |
| Лакаматыў-96 - Белшына | |
| Ведрыч-97 - БАТЭ | |
| Нафтан-Дэвон – Нёман-Белкард | |
| Дынама (Бр) - Днепр-Трансмаш | |
| Гомель – Маладзечна | |
| Дынама (Мн) - Шахцёр | |
| Імя | |
| Прозвішча | |
| Умоўная назва (указваць абавязкова, калі высылаецца некалькі варыянтаў адказаў ад аднаго чалавека) | |
| Адрас | |
| Тэлефон | |

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 15.20 26.08.2001 г.
Замова № 5332
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

***Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43***